# НАША СВАБОДА

№77(164) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

25 ЛІПЕНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Прэтэндэнтаў засталося чацвёра



«Па вельмі папярэдніх звестках» толькі чацвёра прэтэндэнтаў стаць кіраўнікамі Беларусі перайшлі стотысячны парог па зборы подпісаў. Пра гэта 24 ліпеня заявіла журналістам старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына. Ініцыятыўная група Аляксандра Лукашэнкі передала ў ЦВК 395 тысячаў подпісаў, Сямёна Домаша – 161 тысяча, Сяргея Гайдукевіча – 135 тысячаў і Уладзіміра Ганчарыка – 123 тысячы. Яшчэ трое прэтэндэнтаў, як выказалася Лідзія Ярмошына, «знаходзяцца ў памежным стане»: у падтрымку першага сакратара ЦК Партыі камуністаў Сяргея Калякіна сабрана 97 тысячаў подпісаў, за Міхаіла Марыніча – 96 тысячаў і за Леаніда Калугіна – 95 тысячаў подпісаў. Канчатковую рысу пад зборам подпісаў Цэнтрвыбаркам падводзіць сёння, 25 ліпеня.

Раніцай 21 ліпеня (20 ліпеня завяршылася здача подпісаў) Цэнтрвыбаркам знаходзіўся ў разгубленасці, бо за два дні да таго, па словах Л.Ярмошынай, «як мінімум 11 ініцыятыўных групаў заяўлялі, што сабралі па 100 тысячаў подпісаў). Аднак засталіся толькі чатыры, тры знаходзяцца «ў памежным стане». Астатнія набралі менш за 90 тысячаў: у Міхаіла Чыгіра – 87 тысячаў, у Леаніда Сініцына – 86 тысячаў, у Паўла Казлоўскага – 81 тысяча, у Юрыя Данькова – 80 тысячаў, у Зянона Пазьняка – 76 тысячаў. Між тым, кіраўнік ініцыятыўнае групы Л.Сініцына Уладзімір Сцяпанаў прама на прэс-канферэнцыі перадаў Лідзіі Ярмошынай расклад па 110 тысячах подпісаў, завераных старшынямі акруговых камісіяў. 23 ліпеня кіраўнік групы Міхаіла Марыніча перадаў у ЦВК скаргу, што ў падтрымку прэтэндэнта сабрана звыш 100 тысячаў подпісаў. І толькі генерал Казлоўскі прызнаў, што, хутчэй за ўсё, «лічба аб'ектыўная». Больш за тое, дзіўным падаецца той факт, што каля 200 членаў ініцыятыўнае групы Л.Калугіна сабралі болей подпісаў, чым намнога большая група Паўла Казлоўскага.

Хоць прыведзеныя лічбы канчатковымі не з'яўляюцца, тым не менш, на думку Л.Ярмошынай, за суткі сітуацыя наўрад ці істотна зменіцца. «Пакуль адсутнічае інфармацыя пра тое, што колькасць прэтэндэнтаў можа быць павялічаная», — заявіла старшыня ЦВК. «Мы вельмі спадзяемся, што тую чацвёрку, якую мы маем, да рэгістрацыі мы захаваем. Мы будзем максімальна беражліва адносіцца да нашых прэтэндэнтаў», – падкрэсліла Л.Ярмошына.

Варта нагадаць, што ЦВК у часе збору подпісаў вынес папярэджанні тром ініцыятыўным групам за парушэнне заканадаўства, у тым ліку і за ціск на выбаршчыкаў.

25 ліпеня заканчваецца і фарміраванне ўчастковых камісіяў па выбарах прэзідэнта. У Мінску, як сцвярджае старшыня ЦВК, «не паступіла ні адной заяўкі ад палітычных партыяў на ўключэнне іх прэтэндэнтаў у склад участковых камісіяў».

Былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір:

— Нашыя звесткі разыходзяцца з дадзенымі Ярмошынай. У нас ёсць факты, калі ў пятніцу подпісы нашай групы не прымалі ў Гомелі і Брэсце.

Заканчэнне на стар.3

## Амерыканскія спадзяванні на беларускі розум

«ЗША гатовы да нармалізацыі адносінаў з Беларуссю, калі беларускія ўлады будуць прытрымлівацца тых нормаў, якія Беларусь абавязалася выконваць у межах АБСЕ», — заявіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША у Беларусі Майкл Козак 23 ліпеня ў Гомелі.

Па яго словах, «з лістапада 1996 года адносіны паміж Беларуссю і ЗША нельга назваць нармальнымі». «Гэта адбываецца таму, што нашы магчымасці аказваць Беларусі больш істотную дапамогу напрамую звязаныя з выкананнем Беларуссю яе міжнародных абавязацельстваў па забеспячэнні асноўных свабодаў чалавека і свабодна-га, справядлівага і празрыстага выканаўчага працэсу», — сказаў дыпламат.

М.Козак заявіў, што «ЗША былі б гатовы прызнаць вынікі працэсу па выбарах прэзідэнта незалежна ад таго, хто стане пераможцам, калі гэты працэс, пачынаючы з сённяшняга дня, будзе праводзіцца ў адпаведнасці са стандартамі АБСЕ».

Па словах пасла, «урад Беларусі ва ўсіх дэталях ведае аб тых кроках, якія неабходна зрабіць, каб гэтыя выбары былі прызнаныя справядлівымі і празрыстымі»; вядома таксама, што «менавіта Злучаныя Штаты і іншыя краіны Еўропы гатовы зрабіць для паляпшэння адносінаў, калі Беларусь будзе прытрымлівацца сваіх абавязацельстваў перад АБСЕ». «Мы спадзяёмся, што гэтыя крокі будуць зробленыя беларускім бокам», — сказаў М.Козак.

**Ірына ШАНЦАВА, БелаПАН**

## Галасаванне нагамі

Прадстаўнікі Каліноўскай рады нефармальнай арганізацыі Малады Фронт правялі ў Мінску незвычайную акцыю – «галасаванне нагамі». Яна прайшла вечарам 22 ліпеня каля ўваходу ў падземны пераход станцыі метро «Усход» і была прысвечаная маючым адбыцца прэзідэнцкім выбарам. Маладафронтаўцы вывучалі адносіны мінчан да цяперашняга кіраўніцтва краіны і яго шанцаў быць перавыбраным на другі тэрмін наступным чынам. На зямлю ля ўваходу ў метро ўдзельнікі акцыі прыклеілі вялікі партрэт А.Лукашэнкі, а самі ўладкаваліся непадалёку з абыякавым выглядам, назіраючы за рэакцыяй мінакоў. Разлік быў такі: тыя, хто паважаюць А.Лукашэнку, абыдуць партрэт бокам; той, хто не паважае – пройдзе па партрэце.

Гэты разлік, як вынікае з паведамлення для прэсы, якое было распаўсюджанае Маладым Фронтам, «бліскуча апраўдаўся»: за кароткі час у «апытанні нагамі» узялі ўдзел 78 чалавек; 36 з іх, крыху паразважаўшы, «прайшліся» па партрэце; 33 чалавекі абышлі партрэт, але пры гэтым усміхаліся альбо смяяліся; 9 чалавек абышлі партрэт, «выказаўшы глыбокую павагу» да выявы чалавека, які быў там адлюстраваны. Прычым, сярод апошніх, як адзначаюць удзельнікі акцыі, пераважалі людзі сталага ўзросту.

Гэта своеасаблівае даследаванне магло працягвацца і далей, але 79-ым апытаным, якія выйшлі з метро, аказаўся супрацоўнік міліцыі, які адарваў партрэт ад зямлі і забраў з сабой у рэштку.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## За Лукашэнку? Ні пры якіх умовах!

Паводле вынікаў апытання, праведзенага сацыялагічнай службай «Зеркало» інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, за каго з патэнцыйных кандыдатаў жыхары сталіцы прагаласавалі і не прагаласавалі на прэзідэнцкіх выбарах, 51% рэспандэнтаў адказалі, што за Аляксандра Лукашэнку яны не прагаласавалі б ні пры якіх умовах.

## «День» зноў абрабавалі

Уначы 24 ліпеня ўжо другім разам за апошні час абрабаваная рэдакцыя незалежнай газеты «День». Тут рыхтавалі нумар, прысвечаны зніклым у Беларусі асобам. Газета з такім зместам не выйшла на мінулым тыдні, бо тады з памяшкання рэдакцыі невядомыя скралі камп'ютэры. Другі раз злачынцы зрабілі тое самае.

## Вешнякоў даводзіць Ярмошынай

У часе свайго знаходжання ў Мінску старшыня Цэнтрвыбаркама Расіі Аляксандр Вешнякоў давёў сваім беларускім калегам пра заўважаныя парушэнні. Гэта тычыцца тэлеролика да «Славянскага базару» пра Лукашэнку, Пуціна, Кучму. Ён таксама згадаў пра заяву кіраўніка «Слаўнафты» Гуцарыева пра падтрымку Лукашэнкі і выдзяленне некалькіх мільёнаў долараў на паліва для правядзення жніва.

## Ліўні ніяк не ўтаймуюцца

Моцны ўраган з ліўнем нанёс вялікія страты Мінскай вобласці. Вецер сягаў 30 метраў на секунду. Абясточаны шэраг гаспадарак і населеных пунктаў, пацярпелі пасевы. А, напрыклад, у Барысаве падтоплена каля паўтысячы дамоў.

## Мука з бульбы

У лабараторыі біяхіміі і біятэхналогіяў Батанічнага саду Акадэміі навук вынайшлі, як здабываць муку з бульбы. Яна захоўвае ўсе якасці, уласцівыя бульбе. Пры гэтым можа выкарыстоўвацца як самастойны прадукт альбо як дадатак да хлебабулачных і мясных вырабаў.

## Машынам будзе вальней

На ўчастку Мінскай кальцавой аўтадарогі, падпадаючага пад сёлетні план ее рэканструкцыі, да канца года трэба пакласці больш як 320 тысяч тонаў асфальту. Кальцавая дарога займее 6 палосаў, што дазволіць павысіць ейную прапускную здольнасць.

## Першыя па фізіцы

Выпускнікі Магілёўскага абласнога ліцэя пры Магілёўскім дзяржаўным універсітэце сталі пераможцамі 32-й Сусветнай алімпіяды па фізіцы, што прайшла ў Турцыі. Беларусы заваявалі залаты і срэбраны медалі.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1450**

## Американский десант в Гомеле

### Накануне очередного приезда Путина Беларусь впервые посетил главнокомандующий вооруженными силами США в Европе

*Несмотря на демонстративное молчание государственных СМИ, организованное посольством США мероприятие в Гомеле все же стало событием. 23 июля состоялась церемония открытия Центра переливания крови при Гомельской больнице скорой помощи. Проект по созданию этого центра был осуществлен при финансировании командования ВС США в Европе (примерно 420 тысяч долларов США) и бюджета Гомельской области (примерно 50 тысяч долларов США).*

Неординарность события заключалась в том, что впервые Беларусь посетил главнокомандующий ВС США в Европе и Верховный командующий Объединенными силами NATO в Европе генерал Джозеф Ролстон. Вместе с прибывшей с ним группой офицеров, белорусскими врачами и другими 4-х звездный американский генерал торжественно открыл новое медицинское заведение, в котором остро нуждаются те, кто пострадал от чернобыльской катастрофы. На церемонии присутствовали первый министр обороны суверенной Беларуси Павел Козловский и нынешний Леонид Мальцев. Неофициальную информацию, что в списке приглашенных фигурировал единый кандидат в президенты от оппозиции, местные власти не подтвердили.

Следует отметить, что данный центр был открыт на неделю раньше запланированного срока. Не исключено, что причины переноса могли быть связаны и с тем, что буквально через день, 25 июля, в Витебске должно произойти крупное мероприятие — участие Путина и Кучмы в «Славянском базаре». Понятно, что для белорусских властей очередной приезд российского президента, затмевает все остальные мероприятия. Однако американцы сделали все от них зависящее, чтобы дать понять многим о том, что Беларусь они не забывают. Об этом можно было судить по речи, с которой на открытии центра выступил посол США в Беларуси Майкл Козак. В частности, он отметил, что в период с октября 1999 года по октябрь 2000 года США предоставили Беларуси помощь на сумму 24 млн.долларов. При этом посол подчеркнул – целью проектов является не только помощь людям в неотложных потребностях, но также и тем, кто хочет построить в Беларуси процветающее, свободное общество. В общем, для всех присутствовавших выступление Майкла Козака стало ясным и жестким напоминанием белорусским властям придерживаться тех норм, которые Беларусь обязалась выполнять в рамках ОБСЕ. Причем, отметил посол, «начиная с сегодняшнего дня». Только после этого американская сторона готова сделать ряд конкретных шагов по возобновлению контактов на высшем уровне и сотрудничества в различных сферах. В краткой беседе с некоторыми журналистами Козак признал, что у него состоялись некие консультации с Лукашенко. До сих пор от белорусской стороны подобных признаний не было.

Окончание на стр.3

ВЫБАРЫ

## Адзіны штаб для адзінага прэтэндэнта

24 ліпеня на паседжанні «пяцёркі» створаны аб'яднаны штаб па забеспячэнні паспяховага правядзення выбараў. На пасаду кіраўніка разглядаліся дзве кандыдатуры, аднак ні па адной «пяцёрка» канчатковае рашэнне пакуль не прыняла.

«Пяцёрка» распрацавала і прынцыпы фарміравання аб'яднанага штаба. Па словах першага сакратара ЦК Партыі камуністаў Сяргея Калякіна, прынятае рашэнне ідзе «ў развіццё рашэння па адзіным кандыдаце». «Мы дэлегуем у штаб сваіх людзей, каардынуем свае дзеянні на перамогу», – сказаў Сяргей Калякін.

**Рыгор БУЯН**

АБЯЦАНКІ

## Ста долараў не будзе

Сярэднямесячная зарплата ў народнай гаспадарцы Брэсцкай вобласці за чэрвень склала 105.931 рубель. Пра гэта карэспандэнту БелаПАН паведамілі ў абласным упраўленні статыстыкі. У параўнанні з чэрвенем мінулага года яна павялічылася ў 2,1 раза, а ў параўнанні з папярэднім месяцам — траўнем 2001 года — на 7,7%.

Найбольшая зарплата — у работнікаў трубаправоднага транспарту і банкаўскай сістэмы. Сярэдняя зарплата за чэрвень у гэтых галінах склала адпаведна 258.666 рублёў і 201.316 рублёў. Сярэдняя зарплата рабочых і служачых склала 112.875 рублёў, у тым ліку ў прамысловасці – 122.407 рублёў, у будаўніцтве – 122.591 рубель. Па-ранейшаму нізкай застаецца зарплата ва ўстановах культуры — 74.965 рублёў, у калгаснікаў – 64.799 рублёў. Самымі нізкааплачваемымі аказаліся работнікі мастацтва, якія ў сярэднім атрымалі за чэрвень па 63.649 рублёў.

На думку спецыялістаў, абяцаная Аляксандрам Лукашэнкам стадоларавая зарплата да канца года ў Брэсцкай вобласці, і перш за ўсё ў сельскай гаспадарцы рэгіёна, дасягнута не будзе.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

АКЦЫІ

## Для дзяцей рэпрэсіраваных

23 ліпеня два дзесяткі беларускіх дзяцей з сем'яў, пацярпелых ад рэпрэсіяў, выправіліся на 2 тыдні да Польшчы. Яны будуць адпачываць у адным з лепшых курортаў Мазурскага краю.

Гэтая паездка ажыццёўлена Цэнтрам па правах чалавека. Уладкаваннем дзяцей у Польшчы займаюцца касцёл і магістр места Мікалайкі Мазурскія. Дарэчы, беларускія дзеці паехалі туды не з пустымі рукамі. Яны пакажуць там канцэрт і выставу карцінаў. У праграме акцыі запланавана некалькі сустрэчаў з польскімі праваабаронцамі і дзіцячымі калектывамі.

**Кірэй МАНУЙЛА**



# БПСМ агітуе за Лукашэнку

### *Тыя, хто «за бацьку», парушаюць закон аб выбарах*

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў вынесла БПСМ папярэджанне за датэрміновы пачатак агітацыі ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі.

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар Цэнтрвыбаркама Валерый Юрэвіч, папярэджанне было вынесенае 21 ліпеня за раздачу членамі БПСМ каляндарыкаў на 2002 год з выявай Аляксандра Лукашэнкі і подпісам «Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь». Па словах В.Юрэвіча, паколькі гаворка ідзе аб парушэннях, дапушчаных не членамі ініцыятыўнай групы прэтэндэнта, гэты факт не мог быць прадметам разгляду на паседжанні Цэнтрвыбаркама, а папярэджанне ва ўстаноўленым парадку выносілася юрыдычным аддзелам камісіі. «Іх проста папярэдзілі, што праводзіць такога кшталту акцыі забаронена», — сказаў прэс-сакратар Цэнтрвыбаркама.

У сваю чаргу, сакратар ЦК БПСМ Уладзімір Кашталян у інтэрв'ю БелаПАН заявіў, што не ведае падобных фактаў. Па яго словах, БПСМ раней – «паўгода і год таму» — выдаваў падобныя каляндарыкі і цяпер мае іх «пэўны запас». «Можа быць, штосьці раздавалася на якіх-небудзь прадпрыемствах дзесьці ў рэгіёнах, але мне цяжка зараз меркаваць, было гэта ці не», – сказаў У.Кашталян.

Сакратар ЦК БПСМ паведаміў, што яго арганізацыя працягвае кампанію пад лозунгам «Я за бацьку» ў падтрымку пераабрання дзеючага прэзідэнта.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

ЛЮСТРА



Фота IREX/ProMedia

Мірныя будні беларускіх вайскоўцаў

## Чарговая пазыка хлебапякарням

Міністэрства фінансаў Беларусі да канца ліпеня гэтага года выдзеліць арганізацыям хлебапрадуктаў бюджэтную пазыку ў памеры 7 мільярдаў рублёў. Яна выдзяляецца тром камбінатам хлебапрадуктаў – Віцебскаму (2.400 мільёнаў рублёў), Маладзечанскаму (2.324 мільёны) і Аршанскаму (1.076 мільёнаў), а таксама акцыянернаму таварыству «Лідахлебапрадукт» (1.200 мільёнаў рублёў). Грошы, атрыманыя ў выглядзе пазыкі, хлебакамбінаты павінны будуць вярнуць дзяржаве да 1 лістапада 2001 года з выплатай 10 працэнтаў гадавых.

Гэтыя сродкі павінны быць скіраваныя на пагашэнне пратэрмінаванай запазычанасці па крэдытах, якія выдалі ў ліпені 2000 года названым прадпрыемствам «Белаграпрамбанк» і «Беларусбанк».

Арганізацыі хлебапрадуктаў пастаянна атрымліваюць дзяржаўную дапамогу ў выглядзе пазыкаў і крэдытаў. Гэта тлумачыцца цяжкім фінансавым становішчам прадпрыемстваў галіны. Паводле звестак міністэрства статыстыкі і аналізу, вытворчасць хлеба і хлебабулачных вырабаў у Беларусі ў студзені-траўні 2001 года знізілася ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам на 15%. Папярэдняе фінансавае ўліванне ў галіну адбылося ў чэрвені гэтага года — чатырнаццаці камбінатам хлебапрадуктаў, камбікормавым заводам і іншым прадпрыемствам аграпрамысловага комплексу была выдзеленая бюджэтная пазыка ў памеры 9,1 мільярда рублёў.

**Сяргей СНЕГІН**

## Страты без межаў

82,9% ад агульнай колькасці суб'ектаў гаспадарання Брэста (531 прадпрыемства) з'яўляюцца сёння стратнымі. 82,9% з іх прадстаўляюць недзяржаўны сектар эканомікі. Найбольшая колькасць стратных прадпрыемстваў у прамысловасці — 26,9%. Сярод іх — электралямпавы завод, Брэсцкі электрамеханічны завод, завод бытавой хіміі.

Дастаткова нізкім з'яўляецца ўзровень рэнтабельнасці брэсцкіх прадпрыемстваў — 13,4%. На складах растуць запасы гатовай прадукцыі. Да прыкладу, рэшткі прадукцыі на складах фірмы «Элма» перавысілі месячныя аб'ёмы вытворчасці ў 3,3 раза, а ЗАТ «Брэстхлебапрадукт» — у 2 разы, ЗАТ «Дываны Брэста» — у 4,1 раза.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Міліцыя просіць вярнуць пісталет

У мінулыя выхадныя супрацоўнік Брэсцкага РАУС, прапаршчык міліцыі, згубіў табельную зброю – пісталет Макарава, паведаміла БелаПАН УУС Брэсцкага аблвыканкама.

Падчас службовага расследавання стала вядома, што міліцыянер, які знаходзіўся ў Брэсцкім раёне, праявіў элементарную халатнасць — ён проста забыўся пісталет. Калі прапажа выявілася і прапаршчык вярнуўся за зброяй, яе на месцы ўжо не аказалася.

Інфармацыя аб прапаўшым пісталеце была перададзеная 23 ліпеня па мясцовым радыё, прычым для гэтага была перапыненая трансляцыя рэспубліканскай праграмы. Ва Упраўленні ўнутраных справаў спадзяюцца, што чалавек, які знайшоў зброю, верне яе ў міліцыю; у адваротным выпадку пісталет можа трапіць у рукі злачынцаў.

Адказваючы на пытанне БелаПАН, ці часта міліцыянеры губляюць табельную зброю, ва ўпраўленні адказалі, што не часта, але гэта — не першы выпадак.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

СТЫХІЯ

## Маланка спаліла царкву

У начную навальніцу на 24 ліпеня ў вёсцы Прыбарава Брэсцкага раёна загарэлася драўляная царква 1830 года пабудовы. Намаганні пажарнікаў супрацьстаяць агню не мелі поспехаў: ад 30-метровага высокага храма засталіся толькі чорныя галавешкі па перыметры асновы памерамі 30х12 метраў.

Адзінай прычынай узгарання храма з'яўляецца маланкавы разрад, які прыйшоўся на купал, ад чаго нават у праліўны дождж імгненна запылалі смалістыя бярвенні ў сценах.

Па старой царкве сумуюць не толькі ў Прыбараве. На працягу 160 гадоў яна з'яўлялася духоўным апірышчам для насельніцтва ўсіх суседніх вёсак, у тым ліку і Тамашоўкі, адкуль вядзецца род першага беларускага касманаўта Пятра Клімука. Гэта толькі ў мінулым годзе ў Тамашоўцы перабудавалі пад царкву былы клуб, а калі лётчыка-атэіста Клімука «закідвалі» ў космас, то свечкі за ягонае здароўе ўсе-такі запальвалі ля алтара царквы ў Прыбараве.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

СУД

## Справа Завадскага – у Мінскі абласны суд

23 ліпеня старшыня Вярхоўнага суда Беларусі Валянцін Сукала прыняў рашэнне аб вызначэнні тэрытарыяльнай падсуднасці па крымінальнай справе былога афіцэра спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча і яшчэ траіх чалавек, якое паступіла ў суд з Пракуратуры рэспублікі.

Нагадаем, што Валерый Ігнатовіч, яшчэ адзін былы супрацоўнік спецпадраздзялення «Алмаз» Максім Малік, былы курсант Акадэміі МУС Аляксей Гуз і двойчы судзімы Сяргей Савушкін абвінавачваюцца ў бандытызме, наўмысных забойствах, разбойных нападах і ўчыненні іншых злачынстваў, у тым ліку выкрадананні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, якое адбылося 7 ліпеня 2000 года.

Як гаворыцца ў паведамленні прэс-службы Вярхоўнага суда Беларусі, «прымаючы да ўвагі, што большасць пацярпелых і сведак па эпізодах, якія ставяцца ў віну абвінавачваемым, пражываюць на тэрыторыі Мінскай вобласці, у адпаведнасці з артыкулам 274 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (...) справа перададзена для разгляду ў Мінскі абласны суд у мэтах найбольш хуткага, усебаковага, поўнага і аб'ектыўнага расследавання акалічнасцяў».

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Пазьняка хочуць «выбіць»?

Зянон Пазьняк лічыць, што беларускія ўлады намагаюцца ўсімі сіламі «выбіць» яго з сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў. Пра гэта лідэр Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ паведаміў у тэлефоннай размове з карэспандэнтам БелаПАН 23 ліпеня.

Паводле звестак з ініцыятыўнай групы З.Пазьняка, у ягоную падтрымку здадзена 104.600 подпісаў выбаршчыкаў. Кіраўнік ініцыятыўнай групы Сяргей Папкоў паведаміў БелаПАН, што прыкладна каля тысячы подпісаў выбарчыя камісіі незаконна адмовіліся прымаць, аднак у любым выпадку было здадзена больш за неабходныя 100 тысяч.

Між тым паводле папярэдняй інфармацыі Цэнтрвыбаркама, за вылучэнне З.Пазьняка здадзена толькі каля 80 тысяч подпісаў.

«Праблема ў тым, што мы не можам нічога пракантраляваць, яны могуць сказаць усё што заўгодна, – заявіў Зянон Пазьняк. — У камісіях няма ніводнага прадстаўніка нашай партыі, няма прадстаўнікоў іншых партыяў. У камісіі сабраная адна масць».

З.Пазьняк наступным чынам пракаментаваў суботняе рашэнне «пяцёркі» дэмакратычных прэтэндэнтаў аб вылучэнні адзіным кандыдатам ад шырокай грамадзянскай кааліцыі старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзіміра Ганчарыка: «Гэта не мае ніякага значэння, бо, як я ўжо казаў, там няма ніводнага кандыдата, які быў бы альтэрнатывай прамаскоўскай палітыцы. Усё гэта каланіяльная наменклатура».

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ**

АПЫТАННЕ

## Фактар прозьвішча

Большасьць Лукашэнак Менску ня будуць галасаваць за Аляксандра Рыгоравіча.

Такі вынік дало тэлефоннае апытаньне, якое зрабіў карэспандэнт Рацыі. У Менскім тэлефонным інтэрнэт-даведніку падаецца каля шасьцідзесяці уладальнікаў тэлефонаў з прозьвішчам Лукашэнка. Памножце лічбу ў 6 разоў - і вы атрымаеце прыблізную колькасьць менчукоў, якіх Бог надзяліў самым вядомым на сёньня прозьвішчам. Як менскія Лукашэнкі плянуюць галасаваць на прэзыдэнцкіх выбарах? Напрыклад, адна дзяўчына ня пойдзе на выбары, бо цяперашні прэзыдэнт ёй не падабаецца. У той жа час, апазыцыйныя прэтэндэнты «не пераканалі». А вось іншы Лукашэнка будзе галасаваць толькі за Зянона Пазьняка. Цытуем: «Я беларус, і гэтым усё сказана». Цікава, што спадар гаворыць па-расейску. А вось пазыцыя, якая можа падацца экзатычнай. Цытуем: «Я за ўсіх - апрача Лукашэнкі. Я за апазыцыянэраў. А яшчэ я супраць Пазьняка, за ягоны агалцелы нацыяналізм і беларускую мову». Вось так: за ўсіх – апрача Лукашэнкі й Пазьняка. Сярод прыхільнікаў цяперашняга галавы дзяржавы пераважаюць Лукашэнкі-пэнсіянэры. Яшчэ большая частка знаходзіцца ў разгубленасьці. Шмат хто казаў, што адказ на пытаньне Рацыі - не тэлефонная размова. Такім чынам, мы высьветлілі, што само па сабе прозьвішча «Лукашэнка» ня мае нейкае магіі.

**Севярын Квяткоўскі, Радыё «Рацыя»**

АДУКАЦЫЯ

## Здзекі над мовай на універсітэцкіх іспытах

Больш як 30 абітурыентаў Брэсцкага педагагічнага дзяржуніверсітэта атрымалі дазвол здаваць іспыт замест абавязковай замежнай мовы па... беларускай мове. Гэта азначае, што 3 з усіх 4 іспытаў адбываюцца на рускай мове і толькі «замежны» – на беларускай.

Як высвятляецца, вельмі многія выпускнікі сельскіх школаў вобласці не атрымалі элементарных ведаў па якой-небудзь адной з замежных моваў. Гэта заканамерны вынік пры жабрацкім становішчы настаўнікаў, калі здольныя ўцякаюць з вёскі, а замяніць іх няма кім. Таму пакінутыя без ведаў па волі дзяржавы дзеці вяскоўцаў лічацца другасным кантынгентам на ўступных іспытах, а каб яны і бацькі не бунтавалі, прыдумляецца фальшыўка з роднай мовай.

**Галіна БАРАВАЯ**



# Прэтэндэнтаў засталося чацвёра

*Заканчэнне.
Пачатак на стар.1*

Па нашых звестках, колькасць сабраных намі подпісаў сягае больш за 100 тысячаў, недзе 101 тысячу з лішкам. Будзем перапраўляраць. Хто яго ведае: подпісы маглі перахапіць, перакупіць... Я думаю, усё будзе нармальна.

Былы міністр абароны Павел Казлоўскі:

— Мы здалі подпісаў звыш 108 тысячаў. Мы будзем змагацца і даказваць гэта, хаця ўлада хацела б іншага. Я не казаў такога глупства, што прызнаю лічбу 81 тысячу; больш за тое, са мною ўвогуле ніхто не размаўляў. Мы здалі ў камісіі каля 108 тысячаў подпісаў. Але ўся рэч у тым, што камісіі адмаўляліся даваць пісьмовыя пацвярджэнні, колькі мы здалі подпісаў. Цяпер, калі мы спрабуем дабіцца праўды, нам смяюцца ў твар. Загадзя былі створаныя ўмовы, пры каторых можна было маніпуліраваць лічбамі. Але мы будзем змагацца.

Першы сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларускай Сяргей Калякін:

– 23 ліпеня мы накіравалі ў Цэнтрвыбаркам ліст з нашай раскладкай па сабраных подпісах. . Мы здалі 100.934 подпісы. Што гаворыць Ярмошына – цяжка сказаць. Я буду чакаць афіцыйнага адказу, рэгістрацыі, і ў выніку буду дабівацца праўды.

У нас магло б быць куды болей подпісаў, але ў шэрагу рэгіёнаў нашыя людзі не здалі подпісы. Даходзіла ледзь не да таго, што нашых людзей падкупалі з тым, каб яны не перадавалі ў камісіі сабраныя подпісы.

Леанід Сечка, кіраўнік ініцыятыўнай групы Міхаіла Марыніча:

— Шчыра кажучы, я ў шоку. Папярэднія звесткі пра колькасць сабраных подпісаў за Марыніча, абнародаваныя ў СМІ, не адпавядаюць звесткам ініцыятыўнай групы. У тэрытарыяльныя камісіі па выбарах прэзідэнта мы здалі каля 110 тысячаў подпісаў. Аб'яўленыя ж папярэднія звесткі не адпавядаюць тым дадзеным, якія маем мы. Выходзіць, што тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі не ўлічылі больш за 7 тысячаў подпісаў за Міхаіла Марыніча.

Аляксандр Ярашук, старшыня прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу:

— Па нашых звестках сабрана каля 105 тысячаў подпісаў. Выходзіць, каля 30 тысячаў завісла – я прыкладна так і меркаваў. Гэтыя подпісы ёсць, але я зараз разбіраюся ў той сітуацыі, якая склалася. У дадзеным выпадку гэта не папрок у бок Цэнтрвыбаркама – гэта нашыя ўнутраныя праблемы. Я прыкладна працэнтаў на 80 ужо разабраўся ў сітуацыі, і ў бліжэйшыя дні, я мяркую, сітуацыя праясніцца канчаткова.

**Рыгор БУЯН**

# Як здабываліся лукашэнкавыя подпісы

Грамадзянская ініцыятыва «Незалежнае назіранне» прадставіла маніторынг парушэнняў заканадаўства падчас кампаніі па зборы подпісаў ініцыятыўнымі групамі прэтэндэнтаў у кандыдаты ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Мы прапануем толькі некалькі тыповых фактаў, у прыватнасці, як збіраліся подпісы за Лукашэнку.

### Бялынічы

Супрацоўніца раённага цэнтра культуры Пеўнявец В. М. у працоўны час збірала подпісы за вылучэнне А.Лукашэнкі кандыдатам у прэзідэнты ў памяшканні раённай бібліятэкі. У будынку РАНА, сярод яго супрацоўнікаў, збіраліся подпісы за вылучэнне А.Лукашэнкі кандыдатам у прэзідэнты падчас атрымання заробку.

### Горкі

4-10 ліпеня збор подпісаў за вылучэнне А.Лукашэнкі кандыдатам у прэзідэнты праводзіўся ў спецыяльна адведзеным для гэтага памяшканні Горацкага РАУС. Зборам подпісаў займалася дырэктар СШ №2 Тамара Рабцава. У гэтае памяшканне кіраўнікамі прадпрыемстваў накіроўваліся іхныя падначаленыя.

Прарэктар Сельгасакадэміі па выхаваўчай працы Неўдах займаўся зборам подпісаў за вылучэнне А.Лукашэнкі кандыдатам у прэзідэнты ў працоўны час на тэрыторыі акадэміі. Ён хадзіў па кафедрах акадэміі, прапаноўваючы супрацоўнікам падпісацца, і пагражаў тым, хто адмовіцца, непрадаўжэннем кантракта. 25-30 чэрвеня ў памяшканні раённай выбарчай камісіі быў вывешаны партрэт Лукашэнкі.

### Дрогичин

В городе Дрогичин на рынке, во время сбора подписей, был незаконно задержан член инициативной группы Прокопчик В.В., который собирал подписи в поддержку С.Домаша. Задержание производили люди в штатском, которые не проживают в г. Дрогичин. После доставки его в районное отделение милиции и вызова заместителя начальника этого отделения Прокопчик В.В. был отпущен.

### Брест. Ковровый комбинат

Рабочим раздали подписные листы с заданием заполнить подписи десяти человек в поддержку А.Лукашенко.

### Кобрин

На предприятиях Кобрина ПТФ, «Ручайка», инструментальном заводе «Ситома» сбор подписей за А.Лукашенка проходил либо в кабинете директора, либо на проходной. В Кобринском горисполкоме его сотрудники в рабочее время ставили свои подписи в поддержку А.Лукашенка. Начальники использовали свое служебное положение для оказания давления на подчиненных ему работников.

### Ганцевичский район

В РайПо, а также на предприятиях города в рабочее время проходил сбор подписей за А.Лукашенко. В д. Денисковичи сборщик подписей за А.Лукашенка заявлял, что подписываться можно только за одного претендента. Предоставлял ложную информацию. Нарушая ИК РБ.

### Лунинецкий район

На заводе электродвигателей («Полесьеэлектросила») должностные лица обязывали работников завода приносить паспорта, чтобы заполнять подписные листы за А.Лукашенко. Избирателям, которые высказывали желание поставить свои подписи за претендента в кандидаты от оппозиции, угрожали на предприятиях тем, что их сократят с работы в первую очередь.

# ЗВАРОТ
## да беларускага народа і сусветнай супольнасці

Шаноўныя суайчыннікі!

Мы звяртаемся да Вас, а таксама да сусветнай супольнасці ў адзін з самых драматычных момантаў нашай гісторыі.

Кіраўнічы рэжым дайшоў у сваіх дзеяннях да найвышэйшага цынізму. Рэспубліка ахоплена страхам і адчаем. Нагода – бясследныя знікненні вядомых сыноў Беларусі: Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага. Грамадства ўзрушана публікацыяй матэрыялаў аб існаванні «эскадрона смерці», створанага дзяржаўнымі спецслужбамі для расправы з палітычна няўгоднымі асобамі. Дакументы сведчаць, што да гэтых жахлівых злачынстваў меў дачыненне былы сакратар Рады бяспекі, а цяперашні генеральны пракурор В. Шэйман і былы міністр унутраных справаў, а цяперашні намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Ю.Сівакоў.

Дакументы абнародаваны, даведзены да ведама А. Лукашэнкі. Грамадства чакае адказу. Але маўчыць А. Лукашэнка, маўчыць урад, маўчаць дзяржаўныя СМІ. Краіна ў трывозе і неразуменні.

Мы, прадстаўнікі шырокай грамадскасці, палітычных партый, ПАТРАБУЕМ:

— неадкладнага стварэння прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь У. Ярмошыным незалежнага, кампетэнтнага органа з удзелам міжнародных экспертаў для праверкі фактаў, выкладзеных у дакументах, што сведчаць пра дачыненне найвышэйшых дзяржаўных асоб да знікнення людзей;





— на час расследавання адхілення ад займаных пасадаў В.Шэймана, Ю.Сівакова, Дз.Паўлючэнкі і іншых асобаў, якія маюць непасрэдныя дачыненні да стварэння і арганізацыі дзеянняў так званага «эскадрона смерці»;

— тэрміновага і дэталёвага разгляду Цэнтрвыбаркамам пытання аб ануляванні рэгістрацыі кандыдата на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі, які не зрабіў своечасовых захадаў дзеля расследавання злачынстваў супраць грамадзян сваёй краіны і тым самым груба парушыў свой канстытуцыйны абавязак.





**В.АЛАМПІЕЎ, Т.АЛЕСІНА, С.АЛЬФЕР, І.АНТАШКЕВІЧ, В.БАБАЕД, Г.БАКІЕВІЧ, У.БЕЛЯКОЎ, С.БЯСТУЖАВА, С.БАГДАНКЕВІЧ, Я.БАЧАРОЎ, Г.БУРАЎКІН, А.БУХВОСТАЎ, В.ВЯЧОРКА, Н.ГІЛЕВІЧ, Г.ГОЛАСАЎ, У.ГАНЧАРЫК, Р.ГАРЭЦКІ, П.ГОРМАШ, А.ГРАМЫКА, А.ГУЛЯЕЎ, С.ДОМАШ, А.ЗАЛЕСКАЯ, С.КАЛЯКІН, М.КАЦЮШЭНКА, В.КЕЗ, М.КЛЯШЧОНАК, П.КАЗЛОЎСКІ, А.КОКТЫШ, І.КАЛЕСНІК, А.КАРНІЕНКА, В.КАРНІЕНКА, А.ЛЯБЕДЗЬКА, Л.ЛЕМЯШОНАК, В.ЛЯВОНАЎ, М.МАРЫНІЧ, А.МІЛІНКЕВІЧ, В.ОРГІШ, У.ПАЎЛАЎ, К.ПЛАТОНАЎ, В.ПАЛЕВІКОВА, Т.ПРОЦЬКА, В.РЖАННІКАЎ, Я.РАМАНЧУК, П.СЕВЯРЫНЕЦ, І.СЯРЭДЗІЧ, В.СІЎЧЫК, К.СТАРАВЕРАВА, М.СТАТКЕВІЧ, А.ФЁДАРАЎ, М.ФРЫНЛЯНД, Ю.ХАДЫКА, М.ЧЫГІР, В.ШЛЫНДЗІКАЎ, М.ЮРКОЎ**

# Американский десант в Гомеле

*Окончание.
Начало на стр.1*

По неофициальной информации, в последнее время попытки улучшить атмосферу белорусско-американских отношений все же предпринимались. К таковым можно отнести и неофициальный разговор с глазу на глаз генералов Мальцева и Ролстона, происшедший накануне торжественной церемонии. Белорусский министр обороны продемонстрировал после этого оптимизм, заверив журналистов, что «все нормализуется». Было заметно, что министр чувствовал себя не совсем уверенно. Очевидно, что предварительный, надо полагать, строгий инструктаж, как себя вести с американцами, мог способствовать такой неуверенности. Видимо поэтому он предпочел спешно покинуть место церемонии, после произнесенных речей.

Конечно, столь стремительно приближающиеся выборы в Беларуси, которые все называют судьбоносными, диктуют необходимость постоянного обмена мнениями между различными заинтересованными сторонами. В том числе и на межгосударственном уровне. Проблемы подлежат обсуждениям. Но ни для кого не является секретом, что как-только существующие проблемы, в данном случае между Беларусью и США, поднимаются до самого верха власти в Минске, то тут же они становятся просто тупиковыми. Некоторые склонны это объяснять так называемым субъективным фактором в истории. Над Беларусью он давлеет уже не один год. Не может демонстративное замалчивание руководством Беларуси происшедшего 23 июля в Гомеле события быть сигналом, что что-то у него в отношении США меняется в положительную сторону. Кстати, несмотря на столь высокий уровень представительства американского десанта, как его окрестили журналисты, от белорусского МИД на гомельском мероприятии присутствовали всего лишь какие-то клерки из Управления по гуманитарному сотрудничеству. Аккредитованный в Минске дипкорпус был представлен послами Польши и Литвы. Каких-либо важных персон из минского Красного дома, других властных домов замечено не было.

Такое пренебрежительное отношение официального Минска воспринимается это неким диссонансом с тем, что наблюдается в отношениях между Путиным и Бушем. И непонятно, в чем тогда заключается координация внешней политики Беларуси и России, которую вообще славянские апологеты любят называть общей политикой союзного государства. Может таким образом кому-то демонстрируется собственный суверенитет в рамках виртуального союзного государства? Странная логика. Если не сказать большего. Ну ничего, видимо, на «Славянском базаре» и американская тема будет затронута. Ведь скоро Путину предстоит нанести первый, официальный визит в США. Аккурат после президентских выборов в Беларуси.

Несмотря на санкционированное, как говорят, сверху замалчивание, к примеру, практически все российские телеканалы показали репортажи с места события. Кто и что от этого выиграл и проиграл, пусть гадают минские стратеги, мнящие себя центром Европы.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**ЗУБР**

## Замест хлусні

21 ліпеня 2001 года ў цэнтры Жабінкі адбыўся перформанс, галоўным удзельнікам якога стаў чалавек, на галаве якога красаваліся апранутыя адна на адно фашыстоўская каска і хакейны шлем. Абавязковым атрыбутам зачасціўшага ў апошні час па гарадах і мястэчках Беларусі вусата-лысага хакеіста была клюшка. Асаблівасцю мясцовага падвіду мазаічнага хакеіста быў каровін хвост.

Гэты чалавек бегаў па рынку і прыставаў да людзей. Камусьці ён абяцаў 500 долараў сумніўнай якасці, кагосьці абяцаў «перахтрахнуць», і ўсё таму, што яму вельмі хацелася яшчэ пяць гадоў гойсаць з клюшкаю.

Гэта выклікала моцны смех усіх прысутных, а вусаты, зразумеўшы, што вялікай любові ў Жабінцы не пабачыць, пацягнуўся да выхаду ў суправаджэнні санітараў, якія ўвесь час пільна сачылі за ўчынкамі Галоўнага Хворага. І, каб кампенсаваць дозу хлусні, хадзілі за ім і раздавалі газеты «ЗУБР» і НАША СВАБОДА. Падчас акцыі былі затрыманы 5 чалавек.

## В Могилеве прошли похороны диктатуры

22 июля могилевские активисты движения ЗУБР похоронили диктатуру.

В 14.00 из Октябрьского парка вышла траурная процессия и двинулась в сторону Святого озера. Впереди колонны несли крест, сделанный из лыж, несли венки с надписями «О тебе не скорбят пенсионеры. Мы позаботимся о них. ЗУБР», «Нам хорошо без тебя».

Следом несли гроб, сделанный по последней просьбе покойника красного-зеленого цвета. В нем лежало бренное тело диктатуры.

Звучала музыка: гармошка, гитара, свистелки, дуделки. Народ, не скрывая радости, пел траурные песни. Процессия прошла по пляжу, развернулась и остановилась, чтобы навсегда распрощаться с диктатурой. Были произнесены последние слова. После этого гроб заколотили, вышел человек с бел-красно-белым колом в руках: «Дабы призрак диктатуры больше никогда не потревожил нас, я забиваю в его сердце этот кол». После этого гроб бросили в воду.

Освободившись от венков, участники процессии взяли в руки белое полотнище с призывом «Время выбирать».

## Охота на мозаичного

Люди в майках «Время выбирать» появились 20 июля в центре Борисова. Каждый житель города мог получить из их рук новый номер газеты «ЗУБР». Затем акция по раздаче перенеслась на один из городских пляжей. Вновь зубрам решил помешать усатый больной. В мотоциклетном шлеме в трусах и на лыжах он пошёл по песку в направлении зубров, ругаясь нецензурной бранью. Но зубры не растерялись, и град из красных зрелых помидоров полетел в усатого лыжника. Тот немедленно ретировался в реку, переплыл её и убежал в близлежащий лес.

Движение ЗУБР в Борисове хорошо известно, а «зубровская» литература пользуется популярностью. В течение двух дней было распространено свыше 4 тысяч газет «ЗУБР».

